№ 47 (3890)
20 чэрвеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



ВИЗИТ

## Владимир Макей махнул за океан

*Министр иностранных дел Беларуси **Владимир Макей** 19—25 июня совершает визит в Центральную и Южную Америку.*

В ходе визита в Республику Никарагуа планируются встречи с руководством страны и переговоры в Министерстве иностранных дел, а также с ведущими никарагуанскими компаниями. *"Будут обсуждаться состояние и перспективы наращивания политического и торгово-экономического взаимодействия с целью формирования насыщенной экономической программы сотрудничества и выведения политического диалога двух стран на высший уровень"*, — сообщил пресс-секретарь МИД **Дмитрий Мирончик.**

На встречах с политическим руководством Эквадора предполагается "обсудить проделанную сторонами работу по выполнению договоренностей, достигнутых на высшем уровне в ходе визита президента Эквадора Рафаэля Корреа в Беларусь в 2013 году".

На переговорах с руководством Кубы, по словам пресс-секретаря МИД, помимо вопросов политического взаимодействия будут обсуждаться новые направления сотрудничества в торгово-экономической сфере, а также стимулирования двусторонней торговли с использованием механизмов экспортного кредитования и страхования с участием Банка развития Республики Беларусь и РУП "Белэксимгарант".

Официальный Минск расценивает это направление сотрудничества как весьма перспективное. Однако напомним, что Беларусь уже обожглась в этом регионе. В частности, с Венесуэлой. Дело в том, что мы выбираем в качестве партнеров бедные страны. А чем бедный может помочь бедному?

КУЛУАРЫ

## Мясніковіч застаецца

*"Разборкі" з беларускім урадам адкладзены на восень.*



**Аляксандр Лукашэнка** абяцаў зрабіць сур'ёзныя высновы па складзе беларускага ўрада паводле вынікаў першага квартала і нават прызнаваўся, што абмяркоўваюцца новыя кандыдатуры на пасаду прэм'ер-міністра. Але не так проста аказалася знайсці другую па значнасці асобу краіны.

Урад пакуль застаецца працаваць. Працу кіраўніцтва Саўміна Аляксандр Лукашэнка цяпер паабяцаў строга ацаніць пазней, паводле вынікаў першага паўгоддзя. Цяпер у кулуарах "Белага дома" (так паміж сабой чыноўнікі называюць Дом урада ў адрозненне ад "Чырвонага дома" — Адміністрацыі прэзідэнта) нават жарт гуляе, што за выхад адсюль хутка трэба будзе грошы плаціць. І ў кожным жарце, як вядома, толькі доля жарту. Апошняе абмеркаванне праблем беларускай эканомікі з удзелам кіраўніка Беларусі адбывалася на пасяджэнні Савета бяспекі з удзелам кіраўнікоў МУС, КДБ, Генпракуратуры. З такім падыходам відавочна праглядаецца перспектыва, што прымаць міністраў са справаздачамі хутка могуць даручыць следчым.

ПАМЯЦЬ

# Як васілёк у жыце Беларушчыны

Гэта шчасце і вялікая адказнасць — жыць у адзін час з Васілём Быкавым. Можа, нашая Беларусь, нашая нацыя, нашая літаратура таму і выжылі, таму і трываюць ва ўмовах нязменнага ўціску, нязменнага жадання суседзяў нашых лічыць нашую зямлю сваёй спаконнай тэрыторыяй, нашую духоўную і матэрыяльную культуру таксама ж сваёй, што Усявышні ў самую цяжкую часіну пасылае на ўратаванне нам таленты такія, як Васіль Быкаў.

Васіль Быкаў прыйшоў у літаратуру нашую, у свядомасць нашую, калі, здавалася, усё нацыянальнае, усё людскае, усё беларускае было задаўлена жалезабетонам камуністычнай ідэалогіі, таталітарным рэжымам чырвонай імперыі. Прыйшоў і сказаў: "Жыве Беларусь! Думае Беларусь, мысліць Беларусь, мае сорам, мае сумленне!" І прыход Васіля Быкава заўважылі, голас сумлення Беларусі пачулі. Ва ўсім свеце.

Васіль Быкаў зірнуў у глыбокую студню душы ўсечалавечай, душы беларускае, каб на самым цёмным дне ўбачыць зоркі з неба духу. Зоркі ўдзень свецяцца на дне. Пісьменнік, чыё імя гісторыя запісала з новага радка, адпаведна з вялікай літары ў суровым сказе пісьменства нашага, з першых сваіх твораў і да сёння служыў і служыць праўдзе, і толькі праўдзе. Сама ягоная прысутнасць робіць няўтульным і мулкім жыццё і ўладатрымцаў, і літаратурных паслугачоў, кан'юнктуршчыкаў і нядаўніх апавявалаў антычалавечай маралі камуністаў у законе. І няма чаго дзівіцца, што даследчыкаў творчасці вялікага творцы мала, а вось дасьетчыкаў багата.

Васіль Быкаў нябёсамі пасланы на грэшную зямлю нашую, каб несці крыж сумлення, а крыж гэты цяжкі, бо разлічаны на моцную натуру. І ўзышоў Васіль Быкаў на Галгофу за Беларусь, за людства, роднае яму, за ўсіх тых, што з ахвотаю ў далоні ягоныя праўдадарныя ўганялі цвікі абразы, цвікі паклёпаў, цвікі зайздрасці. Да нашых дзён уганяюць. Ды ўзляцеў дух лепшага сына Беларусі ў Слове шчырым, як сама праўда, у Слове чыстым, як думкі прарока, у Слове пакутным, як Маці-Беларусь.

І пакланіцца славутаму земляку дазволю сабе вершам, які называецца "За словам Быкава іду!".



Фота Яўгена КОКТЫША (1984 год).

*Чытаю Быкава —*
*І зноў*
*Вяртаюся ў краіну сноў,*
*У старану маю лясную,*
*Якую,*
*Покуль я існую,*
*Люблю ў затуле туманоў,*
*Ёй плачу, бачу, ёй блазную.*

*Завецца ўшацкай старана,*
*Там Селішчы і Старына,*
*Бычкі, і Дольцы, і Гарані,*
*І Чараноўшчына,*
*І ўранні*
*Лубее ў елкі карына,*
*І каня нікне ў дакаранні.*
*Ашчадны быкаўскі радок,*
*Як непрытомлены хадок,*
*Вядзе на топішча,*
*На ляды,*
*На Пасніцу, Дзяды, Каляды.*
*І рада, ўчуўшы халадок,*

*Душа, сабе не даўшы рады.*
*З раўка бярэ разгон рака,*
*З рыўка вітае ўзмах*
*Рука*
*Абнылае крыло самоты.*
*Пачуеш з даўніны само ты*
*Папрок шпака*
*І крок грака,*
*Напоўніш золлю смутку соты.*

*Узмежкам, палазнёй, лядком*
*За словам быкаўскім,*
*Радком,*
*Не ўзяўшы ў павадыркі стому,*
*Іду,*
*Вяртаюся дадому,*
*Што выціраў слязу крадком,*
*Не пахваліўшыся нікому.*

Васіль Быкаў, як той васілёк у жыце Беларушчыны, робіць зямлю нашую бліжэйшай да неба, а неба слова беларускага вышэйшым.

**Рыгор БАРАДУЛІН**

*1994*

ПІКІРОЎКА

## Спецдакладчык ААН: беларускія ўлады адмаўляюцца ад супрацоўніцтва

*"Парушэнні правоў чалавека ў Беларусі носяць сістэматычны характар"*, — заявіў спецдакладчык ААН па правах чалавека ў Беларусі **Міклаш Харашці** на пасяджэнні Савета па правах чалавека ААН.

*"Адміністрацыйныя арышты і затрыманні на кароткі тэрмін робяцца сістэматычна ў масавым парадку ў адказ на дзеянні грамадзян, якія спрабуюць рэалізаваць свае правы на свабоду сходаў і волевыяўлення"*, — канстатаваў ён.

Спецдакладчык ААН па правах чалавека таксама з жалем адзначыў, што ўлады Беларусі дагэтуль не дазволілі яму наведаць краіну.

*"Тым не менш я працягваю дамагацца супрацоўніцтва з уладамі гэтай краіны, каб весці з імі канструктыўны дыялог"*, — заявіў Міклаш Харашці.

### А хто ён такі?

Рэспубліка Беларусь не прызнае мандат спецдакладчыка ААН па правах чалавека. Пра гэта заявіў учора на брыфінгу прэс-сакратар МЗС **Дзмітрый Міронча.**

*"Адзіным і ўніверсальным, які прымяняецца да ўсіх дзяржаў-членаў ААН, механізмам ацэнкі становішча ў галіне правоў чалавека з'яўляецца Універсальны перыядычны агляд Савета ААН па правах чалавека"*, — падкрэсліў афіцыйны прадстаўнік беларускага МЗС. Паводле яго слоў, Беларусь паспяхова прайшла такі агляд у 2010 годзе і ажыццяўляе меры па рэалізацыі яго рэкамендацый. Ніякіх іншых механізмаў, на думку беларускага МЗС, не патрэбна.



Такім чынам, беларускія ўлады зноў падкрэслілі, што не прызнаюць мандат спецдакладчыка ААН па нашай краіне і па-ранейшаму не маюць намеру з ім супрацоўнічаць.

НАДВОР'Е

## Дзе ж згубілася лета?

Сёння, 20 чэрвеня, умовы надвор'я на тэрыторыі Беларусі будуць вызначаць атмасферныя франты, якія змяшчаюцца з Заходняй Еўропы.

Чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Ноччу па паўночна-заходняй палове, раніцай і днём на большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы. У асобных раёнах прагрымяць навальніцы. Вецер паўднёва-заходні, заходні ўмераны, днём парывісты. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +9...+14°С, максімальная днём ад +16°С па паўночным захадзе да +24°С па паўднёвым усходзе краіны. Атмасферны ціск будзе слаба падаць.

У наступныя двое сутак захаваецца паніжаны тэмпературны фон.

21 чэрвеня надвор'е будуць фарміраваць няўстойлівыя паветраныя масы, якія распаўсюджваюцца з Балтыйскага мора на фоне росту атмасфернага ціску. Месцамі чакаюцца кароткачасовыя дажджы, днём у асобных раёнах магчымы навальніцы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +6...+12°С, максімальная днём +14...+21°С.

22 чэрвеня з поўдня Скандынаўскага паўвострава на тэрыторыю краіны перамесціцца сістэма франтальных раздзелаў. Ноччу месцамі, днём на большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы.

Тэмпература паветра мінімальная ноччу +4...+11°С, максімальная днём +13...+20°С, па паўднёвым усходзе паветра прагрэецца да +23°С.

НУ І НУ!

# Юбілей, які ў «Чырвоным доме» не адзначылі

На добры лад такая дата павінна была б адзначацца на дзяржаўным узроўні. Саюзу беларускіх пісьменнікаў — 80! Саюзу, у які ўваходзілі Купала і Колас, Мележ і Танк, Брыль і Быкаў...

На жаль, улады зрабілі выгляд, што юбілей такога Саюза не заўважылі. Што ж, няхай застаецца гэта на іх сумленні. У Мінску ўсё ж адбылася ўрачыстая Рада, прымеркаваная да 80-годдзя Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Вечар быў адкрыты хвілінай маўчання — прысутныя ўшанавалі памяць Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Дамашэвіча, Анатоля Кудраўца, Давіда Сімановіча, Уладзіміра Чапегі, якія пайшлі з жыцця цягам папярэдніх некалькіх месяцаў.



У сваім слове старшыня ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" празаік Барыс Пятровіч павітаў усіх прысутных, акрэсліў асноўныя этапы станаўлення і развіцця грамадскай арганізацыі, першы з'езд якой адбыўся ў чэрвені 1934 года.

## Віншавальнае слова народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча

*"Дарагія аднапалчане, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў!*

*Ад усяго сэрца віншую вас з высокім юбілеем творчай арганізацыі, да якой мы з вамі належым, у якую кожны з нас уступаў, ведаючы дзеля чаго; а менавіта — ведаючы, што так, у адным шэрагу, локцем да локця, а лепш сказаць сэрцам да сэрца, з паплечнікамі і пабрацімцамі, мы будзем больш упэўнена пачувацца ў сваім вялікім клопаце пра наша роднае мастацкае слова, у сваім нязводным неспакоі, як лепш паслужыць гэтым словам яе вялікасці Праўдзе, а гэта значыць — паслужыць Беларусі, бо нашай бядотнай, шматпакутнай Бацькаўшчыне патрэбна толькі слова Праўды, слова ў абарону чалавечнасці, дабра і справядлівасці.*

*З гэтым мы паступалі ў Саюз — з гэтаю верай, што будзем працягваць вялікую справу папярэднікаў, будзем працягваць, у меру сваіх здольнасцяў, каб даць добрым людзям духоўны спажытак. А працаваць сёння беларускаму пісьменніку вельмі цяжка. Цяжка, бачачы, колькі няпраўды і хлусні ты вымушаны пераадольваць, бачачы, колькі панапладзілася ворагаў беларушчыны, якія прагнуць задушыць нашае роднае слова.*

*Сёння кожнаму з нас трэба яшчэ больш думаць і яшчэ больш клапаціцца пра самае галоўнае — пра лёс нашай мовы. Ні на хвіліну не будзем забывацца, што цягам стагоддзяў найпершай мэтай каланізатараў было — расправіцца з нашай мовай і такім чынам асіміляваць усіх жыхароў краіны. У асімілятараў літасці не было і няма. Нагадаю вядомы факт: больш палавіны дэлегатаў Устаноўчага з'езда, юбілей якога мы святкуем, к канцу 1938 года былі рэпрэсаваныя; адных расстралялі, другіх саслалі на катаргу. За што? За тое, што былі шчырымі патрыётамі роднага слова. Толькі за тое! Іншай віны ні ў кога з іх не было!*

*Дарагія сябры! Зычу ўсім вам натхнёнай плённай працы і багатых творчых набыткаў! Зычу мужнасці ў нашым вялікім змаганні за беларускую Беларусь!*

*Прыняты ў Саюз пісьменнікаў 60 гадоў таму назад*

*Ніл Гілевіч".*

Нягледзячы на тое, што пасяджэнне Рады было прысвечана юбілею Саюза беларускіх пісьменнікаў, на ім вырашана і адно рабочае пытанне. Разгледжаны заявы Раісы Баравіковай і Алены Масла на аднаўленне сяброўства ў СБП. Ім не даспадобы аказалася знаходжанне ў Саюзе, які ўзначальвае М.Чаргінец, а таму яны вярнуліся ў Саюз пісьменнікаў, які не здрадзіў класікам беларускай літаратуры, Бацькаўшчыне, роднай Беларусі.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Правительство мечется

Отличительной чертой белорусской экономики остается рост средней зарплаты почти без увеличения производительности труда и девальвация национальной денежной единицы. За первый квартал рост реальных денежных доходов белорусов в 3,5 раза опережал увеличение их выработки — 6,6% и 1,8% соответственно. Этот дисбаланс носит стабильный характер. Стабильно и устойчиво девальвируется и белорусский рубль. С начала года он подешевел к доллару на 6,7% со средней скоростью 100 рублей в месяц, или на 1%. Это, естественно, приводит к подорожанию импорта.

Недопущение более скоростной девальвации, что сразу спугнет рублевых банковских вкладчиков, достигается в основном за счет выставления на биржевые торги недостающей валюты из резервов Нацбанка. С начала года они потеряли более 1 млрд долларов. Надо ведь отдавать еще и долги. За январь—апрель по сравнению с аналогичным периодом прошлого года более чем на 1 млрд долларов снизилась и валютная выручка. Как следствие "калийной войны" упали в среднем на 100 долларов цены на 1 тонну калийных удобрений, снизился физический экспорт нефтепродуктов, в том числе из-за войны в Украине. Некоторые экономисты предлагают Нацбанку прекратить валютные интервенции на бирже, в результате чего установится так называемый равновесный курс белорусского рубля к доллару (равно как и к другим валютам), что позволит если не сохранить валютные резервы неизменными, то хотя бы снизить темпы их усыхания. Равновесный курс помог бы сбалансировать пассивный платежный баланс Беларуси. Трудно сказать, на какой величине он (курс) уравновесится, но легко предвидеть, к каким последствиям приведет ускоренная девальвация рубля, когда вкладчики и население массово "пойдут в валюту" (смотри сценарий валютного кризиса 2011 года).

Поэтому выход из ситуации для белорусских денежных властей традиционный: жить от кредита до кредита. Это лейтмотив белорусской модели экономики. Россия еще ранее обещала Беларуси межгосударственный кредит в размере 2 млрд долларов. Поэтому его должен выдавать российский бюджет. Чтобы внести в него соответствующие изменения, нужно время. А пока нас кредитует Банк ВТБ (Россия). В декабре Беларусь получила от него 450 млн долларов, в июне поступит еще 1 миллиард. Потом за счет 2 млрд долларов межгосударственного кредита, который обещан к сентябрю, Беларусь рассчитывается с ВТБ и оставляет себе 550 миллионов. А потом, глядишь, к зиме придет долгожданный шестой транш кредита Антикризисного фонда ЕврАзЭС в размере 440 млн долларов. Вот такую запутанную схему нарисовал недавно на пресс-конференции посол России.

Помогает одалживать валюту, но внутри страны, Министерство финансов. За 5 месяцев путем размещения валютных облигаций удалось привлечь почти 200 млн долларов. Минфин рассчитывает до конца года разместить облигаций не менее чем на 500 млн долларов, в том числе от 50 до 100 млн продать физическим лицам, надеясь, что доходность этих ценных бумаг в 7% годовых сделает их более привлекательными, нежели банковские валютные депозиты. Этих депозитов в банках более 7 млрд долларов. Ясно, что миллиарды долларов хранятся у населения, что называется, на руках. Проблема, каких их выманить. Но грядет еще большая проблема для Минфина: как и чем гасить свои валютные облигации?

Пока тупиковая белорусская экономическая модель поддерживается на плаву российскими преференциями и кредитами, она будет продолжать консервироваться в таком виде, какой мы ее наблюдаем много лет. Она не дает прогресса в повышении качества жизни белорусов. За десятилетие топтания на месте это понял уже практически каждый обыватель. Понимают, думается, и в правительстве. Тем не менее видим лишь его очередные административные метания. Так, в недрах Совета министров родился проект указа, который нечаянно стал достоянием общественности. Согласно этому проекту, с 1 июля на 6 месяцев вводится исключительное право государства на импорт в Беларусь товаров, аналоги которых производятся в стране. Среди исключительных импортеров названы: ОАО "МАЗ" — будет заниматься импортом не только грузовых, но и легковых автомобилей; ОАО "МТЗ" — станет единственным импортером сельхозтехники оборудования; ОАО "Горизонт" — за ним импорт радио-, теле-, видео- и бытовой техники. За ОАО "Атлант", естественно, импорт продукции, аналоги которой он выпускает сам. Помимо того, что белорусским предприятиям придется заниматься не свойственными им функциями, у них автоматически появится понятное желание свести к минимуму соответствующую конкуренцию.

Таким путем, надо полагать, разработчики очередного белорусского "ноу-хау" надеются ограничить импорт и выправить внешнеторговый баланс страны. Судьба действующих ныне белорусских импортеров, в основном частников, их не волнует. Как не заморачиваются они и тем, что импорт для населения может стать таким же дефицитом, как в памятные советские времена. Казалось бы, абсурдность этого проекта указа очевидна и можно надеяться, что в представленном виде в свет он не выйдет. Однако уже лицензирован импорт пива, кондитерских изделий, макарон. Экспорт этой продукции из Украины прекращен (тем самым передан "привет" нашим украинским братьям). Ни Россия, ни Казахстан ничего такого не предпринимали. Причем подобные примеры ручного управления белорусской экономикой стали уже нормой на фоне ее уверенной инкорпорации в экономику России. В конечном итоге белорусская экономическая модель может оказаться роковой для белорусов и их государства.

ПО СЛУЧАЮ

# Снопков — человек будущего

## *Но мрачного будущего*




Премьер-министр Михаил Мясникович как-то назвал министра экономики Николая Снопкова *"человеком новой генерации", опережающим время.*

И вот на днях данный министр блестяще подтвердил лестную оценку шефа. Это произошло на заседании Президиума Совмина. Снопков заявил буквально следующее: "*Невозможно заниматься двумя системными и противоречащими друг другу элементами экономической политики — инфляция и рост* (ВВП). *В 2015 году для сбалансирования ситуации в экономике приоритетом, на наш взгляд, необходимо определить инфляцию*".

Если подобные суждения сделаются интеллектуальной нормой в будущем, что весьма и весьма вероятно, то нас ожидает самое настоящее варварство. Ведь любой мало-мальски образованный экономист знает, что **подлинный рост ВВП автоматически подавляет инфляцию** в стране со стабильной и тем более падающей численностью населения (каковой является Беларусь).

Судите сами. Если объемы производства увеличиваются, то товаров и услуг становится больше. То есть предложение растет. Спрос меж тем остается прежним (раз потребителей не становится больше). Следовательно, по всем макроэкономическим канонам цены должны снижаться.

Возможно, мне возразят, что рост зарплат и новые потребности увеличат спрос. Но речь-то идет о прежних — сопоставимых ценах на ранее продававшиеся товары. Никто ведь не купит больше обычных булок или рубашек, если те вздорожали (насыщение снижает, а не повышает потребности).

Еще одно возможное возражение состоит в том, что предложение отечественных товаров на внутреннем рынке уменьшится, если экспорт вырастет в большей степени, чем производство. Но ведь там, где экспортеры не расхищают собственную страну, импорт растет соразмерно экспорту и суммарное внутреннее предложение отечественных и импортных товаров все-таки увеличивается.

И наконец: что, если производство растет только за счет увеличения производственных мощностей, а не выпуска потребительских товаров? Хоть при таком никчемном производстве ради производства жить никому не хочется, но цены и здесь снижаются по причине удешевления избыточных средств производства.

Почему же тогда министр так уверенно утверждает, что рост ВВП и борьба с инфляцией несовместимы и даже противоположны друг другу? Неужели совсем не знаком с экономической азбукой?! Вряд ли. Чему-то ж его учили в двух академиях — Горецкой сельскохозяйственной и Президентской управленческой? Да только белорусская бюрократическая практика выдула из головы базовые постулаты.

Дед мой рассказывал, как цыгане накачивали лошадей воздухом, чтобы выдать тощую клячу за упитанную кобылку. Нечто похожее проделывается и с белорусской экономикой. Ее накачивают деньгами, чтоб нарастить объемы, которыми можно хвастаться. Но при этом производится много такого, что даже не окупает затрат — то есть попросту уменьшает реальные богатства страны. Меж тем "вдутые деньги" повышают платежеспособный спрос, раскручивающий инфляцию.

Короче говоря, не любой, а только фальшивый рост ВВП сопровождается инфляцией. Именно создание "дутых объемов" противодействует стабилизации цен. И если какой-то министр не знает и не умеет обеспечивать никакого другого роста экономики, кроме фальшивого, то для него задача сводится к "или-или" — или рост обеспечу, или инфляцию остановлю, но не то и другое вместе.

Это, увы, не только личная проблема руководителя министерства. Это *"беда для нас для всех — для всех одна"*, как пел Владимир Семенович Высоцкий.

Противники радикальных перемен, разумеется, всех утешат: мол, мы, белорусы, столько уж лет живем в условиях фальшивого роста и рекордно высокой инфляции, но как минимум без длительных ухудшений материального благополучия. Снопков далеко не первый призывает затормозить и изменить направление. Стоит ли его слушать? И тем более поступать так, как он предлагает?

Безусловно, не стоит, если наш президент и Ко с прежней ловкостью и результативностью будут добывать за границей средства для снабжения белорусского народа не мыльными пузырями статистического прироста, а реальным ширпотребом. Нормальная нацэкономика способна без всяких управленцев-снабженцев приносить настоящую прибыль, которую можно "проесть", не истощая производственных мощностей и не распродавая природных ресурсов. При виртуальном же росте вместо прибыли образуются убытки, которые приходится покрывать за счет иностранных вспомоществований.

Однако наш главный добытчик не всегда одинаково успешен в выуживании ресурсов. А в последнее время так и вообще ему не то что халявных денег, но и дорогих кредитов давать не спешат. А много ли "позаимствуешь" по растворительным схемам?!

Когда же с деньгами не густо, наши министры не понимают, за счет чего обеспечивать рост ВВП. Настоящий рост им не по способностям. Фальшивый — не по карману. Вот они и начинают упрямиться, как Снопков: *"Не требуй, хозяин, с нас роста, коль его оплатить не можешь! А за это мы избавим твою (ну, и немножечко нашу) державу от неприличной для центра Европы инфляции. А заодно заставим избалованный лично тобою народ жить по средствам".*

Набор в очередной раз предлагаемых мероприятий для перехода к "жизни по средствам", как всегда, незатейлив и скуден: быстро убрать все государственные субсидии (прежде всего в ЖКХ и на общественном транспорте) и беспощадно принудить людей экономить. Причем псевдоборцы с инфляцией даже не замечают, что все их меры сводятся не к стабилизации, а к резкому повышению цен, компенсирующему "отнятые у народа" дотации.

Белорусским сторонникам подобных методов "экономической политики" легко верить, будто после недолгой "шоковой терапии" выжившие сограждане и субъекты хозяйствования научатся работать и зарабатывать самостоятельно. А всё потому, что министры и прочие "экономисты", выросшие за пазухой у Лукашенко, регулярно пополнявшейся миллиардами "честно добытых" долларов, евро и прочего, даже не могут представить, насколько ужасное будущее ожидает страну, так долго не жившую по средствам и даже не очень-то искавшую, где и как заработать (а не выманить!) эти средства на глобальном рынке, переполненном качественными товарами и могущественными конкурентами.

А ведь как только наш "всенародноизбранный" **полностью** исчерпает кредит доверия своих зарубежных (преимущественно российских) меценатов, именно такие "люди будущего", как Снопков, и вытолкнут Беларусь в пропасть "саморазвития". А там уж многие из нас, разучившихся или не научившихся "летать" самостоятельно, разобьются вдребезги.

Хоть могли бы и "воспарить", если б ведали, что творим.

**Александр ПЛАСКОВИЦКИЙ.**

### *Об авторе*

***Александр Пласковицкий*** *родился в 1964 году в Минске. Окончил юридический факультет БГУ. Работал в районном исполкоме, Академии наук, Верховном Совете. Был начальником Главного государственно-правового управления Администрации Президента Республики Беларусь.*

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ...

## *Няўжо прэзідэнт будзе самастойна вырашаць, уводзіць у краіне ваеннае становішча, ці не ўводзіць?*

*Беларускія дэпутаты ўнеслі змяненні і дапаўненні ў закон аб ваенным становішчы. Чаму гэтая тэма стала такой актуальнай, здагадацца не цяжка.*

Прадстаўляў дакумент міністр абароны **Юрый Жадобін,** які заявіў, што *"ўнясенне паправак у дзеючы закон асабліва актуальна ў сучасных умовах з улікам характару існуючых выклікаў і пагроз".*

Законапраектам устаноўлена, што падставамі для ўвядзення ваеннага становішча на тэрыторыі Беларусі з'яўляюцца ваенная пагроза ці напад. Але ўводзіцца і адмяняецца ваеннае становішча будзе не рашэннем дэпутатаў, а ўказам прэзідэнта, які падлягае неадкладнаму афіцыйнаму апублікаванню. Прычым Юрый Жадобін звярнуў увагу, што, згодна з законапраектам, у мэтах забеспячэння ваеннага становішча будзе ўводзіцца ваенная цэнзура. Таксама законапраект замацоўвае забарону на выпуск СМІ за выключэннем тых, якія пазначаны ў пераліку Міністэрства інфармацыі Беларусі.

ОФИЦИАЛЬНО

## *В двойном размере*

*Совмин установил размер доплаты бюджетникам за работу в сверхурочное время, государственные праздники, праздничные и выходные дни. Соответствующее постановление правительства вступает в силу с 25 июля.*

Согласно документу, устанавливается доплата за каждый час работы в сверхурочное время, государственные праздники, праздничные и выходные дни сверх зарплаты, начисленной за указанное время. Доплата будет распространяться на работников бюджетных организаций и иных организаций, получающих субсидии, работники которых приравнены по оплате труда к бюджетникам. Фактически это означает, что оплата труда в такие дни для них будет начисляться в двойном размере.

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

## *40 тысяч учителей могут оказаться на улице*

### *Зато у их вчерашних коллег зарплата будет выше*

В новом учебном году учителям обещают повысить зарплаты до уровня средней по стране. В правительстве уже подсчитали: чтобы платить школьным педагогам зарплату в 5,86 миллиона рублей, достаточно уволить около 40 тысяч учителей.

— *В 1990-х годах прошлого века у нас было 1,5 миллиона учеников и 123 тысячи учителей, а сейчас мы имеем 931 тысячу учеников и 122 тысячи учителей,* — заявил не так давно заместитель премьер-министра страны Анатолий Тозик. — *По моим подсчетам, сегодня нам необходимо только 80 тысяч учителей. Если мы придем к этой цифре, то вот вам и решение проблемы с повышением зарплат этой категории бюджетников.*

Справедливости ради стоит отметить, что, несмотря на то, что профессия учителя в Беларуси не входит в число престижных и последние годы педвузы страны не могут набрать на бюджетные отделения студентов, кадрового голода наши школы не испытывают. Более того, в Беларуси на одного учителя приходится 8 учеников, а в европейских странах — 15. И вряд ли кто-то скажет, что наши дети получают знания лучше, чем дети в Литве, Польше или в Германии.

Так, может, действительно есть смысл сократить педагогов, оставив в школе только самых-самых, проще говоря, профессионалов?

В правительстве, правда, столь смелое предложение реализовывать все же не торопятся. Но сокращения, видимо, будут. Как заявил Анатолий Тозик, с 1 сентября зарплаты учителям повысят *"не настолько, насколько нам хотелось бы",* но увеличат разницу между надбавками за категорию. "*Нам важно сегодня в школе сохранить профессиональное ядро — прежде всего учителей высшей категории",* — подчеркнул Тозик.

**К СЛОВУ**

### *Сколько зарабатывают учителя...*

Традиционно зарплаты в сфере образования в нашей стране маленькие. В апреле этого года средняя зарплата в сфере образования составила всего лишь 3,9 миллиона рублей. Средняя зарплата учителя не дотягивала до средней по стране аж на 1 миллион 300 тысяч. (В апреле средняя зарплата в Беларуси была 5,86 миллиона рублей, а средняя зарплата учителей — 4,55 миллиона.)

В прошлом году, как известно, власти пытались поднять заработки в школе на 25%. Но в итоге с 1 сентября 2013 года зарабатывать учителя стали больше всего лишь на 3%. Вряд ли существенного повышения им стоит ждать и с 1 сентября 2014 года. Хоть из бюджета и планируется дополнительно выделить 600 миллиардов рублей на зарплаты педагогам, но, как признался Анатолий Тозик, этого недостаточно, чтобы зарплаты учителей и преподавателей соответствовали планам правительства.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПРАЕКТЫ

## *Рэформа ў ЖКГ скончыцца з'яўленнем новай інспекцыі?*

*Камісія па рашэнні праблемных пытанняў у сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі, створаная па даручэнні Аляксандра Лукашэнкі, скончыла сваю працу. Распрацаваны нават праект указа прэзідэнта. Днямі пра рэформы, якія прапануе ўрад, распавёў журналістам намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Анатоль Шагун.*

Праўда, канкрэтнага адказу на галоўнае пытанне "Як плануецца знізіць сабекошт жыллёва-камунальных паслуг?", чаго, дарэчы, і патрабаваў на пачатку года Лукашэнка, ствараючы камісію, Шагун не даў. Затое распавёў, што прапануецца стварыць жыллёвую інспекцыю. Гэтая структура, паводле слоў намесніка міністра, дапаможа павысіць якасць тэхнічнага абслугоўвання жыллёвага фонду.

— *Сёння досыць вялікая колькасць жылля абслугоўваецца таварыствамі ўласнікаў, іншымі арганізацыямі. У мясцовых органаў улады ёсць абавязкі па кантролі, але няма дастатковых сродкаў для рэалізацыі гэтых паўнамоцтваў. Стварэнне жыллёвай інспекцыі станоўча адаб'ецца на якасці тэхабслугоўвання жылфонду,* — адзначыў Анатоль Шагун. Паводле яго слоў, у склад інспекцыі ўвойдуць прадстаўнікі Дзяржбуднагляду.

З'яўленне новай інспекцыі можа стаць не адзіным наваўвядзеннем у сістэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Анатоль Шагун заявіў, што функцыі налічэння плацяжоў за жыллёва-камунальныя паслугі грамадзянам прапанавана перадаць спецыялізаваным разліковым цэнтрам, якія існуюць і цяпер.

— *Маецца досыць вялікая колькасць зваротаў ад грамадзян па налічэнні плацяжоў, у прыватнасці, па таварыствах уласнікаў. Каб упарадкаваць, выключыць злоўжыванні, гэтая функцыя будзе перададзена разліковым цэнтрам, што дазволіць знізіць затраты тых жа таварыстваў на налічэнне плацяжоў,* — адзначыў Анатоль Шагун.

На што яшчэ звярнуў увагу чыноўнік, дык гэта на скарачэнні ў сферы ЖКГ. Паводле яго слоў, колькасць кіруючага апарату арганізацый ЖКГ *"будзе прыведзена да адной роўніцы".* Прапануецца, што колькасць кіраўнікоў складзе не больш за 10% агульнай колькасці работнікаў арганізацый. І ўсе кіраўнікі і работнікі будуць праходзіць атэстацыю, якая нібыта дапаможа павысіць якасць абслугоўвання.

Дарэчы, у Мінску ўжо заявілі аб скарачэннях у сферы ЖКГ сталіцы. На нядаўнім пасяджэнні ў Мінгарвыканкаме было аб'яўлена, што пад скарачэнне патрапяць 563 работнікі, на іншыя пасады перавядуць 287 чалавек.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

АБСУРД

## *Кеды і туфлі на высокім абцасе хочуць забараніць*

У Расіі, а следам за ёй і ў Беларусі, могуць быць забаронены кеды і туфлі на высокім абцасе з-за паправак да тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза.

Запыт на забарону абутку на плоскай падэшве і на высокіх абцасах быў накіраваны з Дзярждумы кіраўніку Еўразійскай эканамічнай камісіі **Віктару Хрысценку.** Тлумачыцца гэта меркаваннямі артапедычнай бяспекі.



Як удакладняе "Российская газета", у выпадку дадання гэтых паправак у тэхрэгламент Мытнага саюза пад забаронай могуць апынуцца балеткі, кеды і туфлі на шпільках.

Раней стала вядома, што краіны Мытнага саюза, куды акрамя Расіі таксама ўваходзяць Беларусь і Казахстан, могуць ужо гэтым летам ўвесці забарону на сінтэтычную карункавую бялізну. Вось і думай цяпер, ці ёсць межы абсурду.

СІТУАЦЫЯ

# Аперацыя «Ліквідацыя»

## *У некаторых рэгіёнах Беларусі зноў пачалі знішчаць свіней*

Жыхары вёскі Вялікая Страча Астравецкага раёна, якая знаходзіцца ў некалькіх кіламетрах ад літоўскай мяжы, падсумоўваюць свае страты. І страты гэтыя даволі значныя. Справа ў тым, што мясцовыя ўлады загадалі цягам дня знішчыць свіней на кожным падворку. Патлумачылі гэта тым, што ў вёсцы выяўлены ачаг афрыканскай чумы. Да тых, хто абураўся і патрабаваў афіцыйнага пацвярджэння інфармацыі, прыйшлі з міліцыяй.

Люцыя Спірыдон не можа стрымаць слёз:

— *У адной нашай жанчыны здохла свінка. Узялі мяса на аналізы і адразу загадалі ўсім забіваць скаціну. Як гэта можна?! Без заключэння лабараторыі?! Ці мала ад чаго магла здохнуць свінка? Да мяне прыйшлі з міліцыяй. Сказалі: "Не заб'еш, дык мы тады зробім самі ўсё ўколам, але мяса ўжо есці будзе нельга. Мая нявестка прасіла, каб далі паглядзець хоць які дакумент, званіла ветэрынару, нават у інтэрнэт-газету пісала, але ўсё бессэнсоўна. Я плакала, прасіла — ніхто і слухаць нічога не хацеў, толькі пагражалі, што складуць пратакол за непадпарадкаванне... У мяне былі два парсючкі. Адзін — большменш, а другі зусім яшчэ малы... Але што зробіш — закалолі. Толькі на гэтым усё не скончылася, бо ўвесь двор ды яшчэ і за хлявом нам аблілі нейкай хіміяй. Гляньце*



*цяпер, які ў мяне апёк хімічны на скуры, на паўнагі. Гэта я паслізнулася, павалілася на траву — і вось вынік. Бачыце? А цяпер і куры дохнуць, бо яны ж ходзяць па траве той... Ну як можна да такой ступені пляваць на людзей, не лічыцца з імі?*

Вёска Вялікая Страча даволі вялікая па сённяшніх мерках. 70 двароў, добрыя дамы, прасторныя хлявы. Нават у сабак добрыя, утульныя будкі. Каты на платах уважліва сачылі за маім перамяшчэннем па дварах. У адным з іх заспела двух мужчын за рамонтам мотаблока. Гаспадар Павел Ягайла расказвае:



— *Няма ў нас больш свіней. Закалолі. Пад прымусам, канешне. Прычым прама запытваў у ветэрынара: "Хто за гэта будзе несці адказнасць? Дзе хоць які афіцыйны дакумент аб тым, што тут сапраўды эпідэмія? Хто будзе кампенсаваць страты, калі высветліцца, што гэта памылка? Дзе афіцыйны загад? Хто яго падпісаў?" Але ў адказ чуў адно: "Рабіце тое, што вам загадана". І калі яны прыйшлі з міліцыяй у двор, то куды падзенешся? Толькі я вырашыў, што нават у суд буду звяртацца, калі высветліцца, што ніякай эпідэміі ў нас не было. Мне падаецца, што нашы "спецыялісты" папросту нават не сталі чакаць вынікаў аналізаў, а вырашылі перастрахавацца і на ўсялякі выпадак знішчыць усё пагалоўе. Пра людзей жа ніхто ўвогуле і не падумаў.*

На вуліцы Маладзёжнай жывуць у асноўным маладыя сем'і. Амаль у кожным двары трактар. Палісаднікі нагадваюць ілюстрацыі да кніжак пра англійскае вясковае жыццё — памідоры і капуста ў суседстве з півонямі і лілеямі. У адным з двароў жанчына раскідвае з міскі корм куранятам. Вера Лявонцьева — былая настаўніца, выкладала ў мясцовай школе беларускую мову.

— *У нас былі парсючок і маленькая свінка,* — расказвае пенсіянерка. — *А дзе захоўваць мяса, калі лета на двары? У лядоўню склалі — колькі туды ўмясцілася, а ўсё астатняе аддалі ўнучцы ў горад. А што было рабіць?.. Прадаваць тое мяса нам забаранілі. Ды яшчэ і кішкі загадалі закапаць у яму ды хлоркай засыпаць. А ў людзей бульба, бурачкі і зерне засталіся. Гэта, канешне, не прападзе — будзем курэй карміць. Але шкада... Мы ж збіраліся калоць свіней недзе напрыканцы лістапада і зімой. А што перажылі тыя, у каго шмат свіней было! Гэта ж не перадаць! Горш за ўсіх — шматдзетным сем'ям. Для іх тое, што адбылося, — сапраўдная катастрофа. Паспрабуй па цяперашніх коштах набыць свініну ў краме! Каму гэта па кішэні?!*

Праз дарогу ў двары сваёй гаспадаркі мяне сустрэлі муж і жонка Ковалі. Жанчына паказала ў хляве пустыя загарадкі, дзе раней былі свінні. "Вось, пуста ўсё, толькі кароўка засталася", — уздыхае яна.



Алег Коваль абураны, як і іншыя аднавяскоўцы:

— *Калі гэта афрыканская чума, то тут нічога не зробіш. Але людзі думаюць, што ніякай эпідэміі няма. Калі тут ачаг, то чаму тады няма ніякага каранціну і ўсяго такога? Толкам ніхто нічога не ведае, ніхто нічога не гаворыць, і гэта — самае абуральнае. Нам загадалі — і мы павінны, не распытваючы, загад выконваць. Інтарэсы людзей нікога не цікавяць. Атрымліваецца, што мы ніхто...*

Бачна, што ў вяскоўцаў пануе сумны настрой. Ля ганка мясцовай крамы сабраліся некалькі чалавек. На пытанне "ці засталіся ў вёсцы свінні?" жанчыны толькі рукамі замахалі:

— *Ды што вы! Знішчылі ўсіх!*




### *Уладзімір КАРПОВІЧ, галоўны ветэрынар Астравецкага раёна: «Я вам на гэтае пытанне адказваць не буду...»*

Галоўны ветэрынар Астравецкага раёна **Уладзімір КАРПОВІЧ** яўна не абрадаваўся, калі пачуў, што яго патурбавала журналістка "Народнай Волі". Між тым я прасіла адказаць на пытанне, якое сёння на Астравеччыне задаюць усе: ці сапраўды ў раёне зарэгістравана ўспышка афрыканскай чумы свіней?

— *Ну, а самі вы як думаеце?* — пытаннем на пытанне адказаў галоўны ветэрынар.

***— Я магу думаць што заўгодна, я не спецыяліст. Але калі сыходзіць з таго, што свіней знішчылі ды яшчэ зрабілі дэзынфекцыю, то, магчыма, і ёсць...***

— *Людзі ў курсе справы. Усе ўсё добра ведаюць. Малайцы, сітуацыю разумеюць. Не было ніякіх праблем.*

***— А я чула ад людзей іншае. Людзі кажуць, што, магчыма, ветэрынар папросту вырашыў перастрахавацца і свіней калолі дарэмна. Калі "не было ніякіх праблем", то чаму тады прыходзілі ў двары з міліцыяй? Хто даў загад знішчаць свіней?***

— *Я вам на гэтае пытанне адказваць не буду.*

На гэтым спадар Карповіч размову абарваў. Яго падначалены, спецыяліст ветэрынарнай станцыі **Аляксандр ЦВІРКО,** сцвярджаў, што ўвогуле не ў курсе падзей, толькі пару дзён як выйшаў з адпачынку.

***— Як павінны дзейнічаць ветэрынарныя службы ў такой сітуацыі? Вёска стаіць ля дарогі на літоўскую мяжу. Не было ніякай інфармацыі, ніякіх улётак пра ўспышку АЧС. Ці не трэба зрабіць нейкія захады, напрыклад, увесці каранцінныя меры, каб інфекцыя не распаўсюдзілася далей?***

— *Калі мы фіксуем ачаг эпідэміі, то павінны паведаміць пра гэта вышэйшаму кіраўніцтву, а ўжо там вырашаюць, што трэба рабіць. Там ёсць адпаведная служба.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

**P.S. У інтэрнэце з'явіліся звесткі пра прымусовае знішчэнне свіней у некаторых вёсках Бешанковіцкага і Бялыніцкага раёнаў. Аднак і тут афіцыйна не аб'яўлялася пра ўспышку АЧС.**

*Мікола АЎРАМЧЫК*

# Гонар, сумленне і краса

Прыгадваю, як па-рознаму адзначаліся пяцідзесяцігадовы і шасцідзесяцігадовы юбілеі Васіля Быкава. Напярэдадні пяцідзесяцігоддзя яго сябры і калегі дамагаліся правесці творчы вечар пісьменніка, прысвечаны “круглай” даце, не ў цесным клубе старога дома літаратараў на вуліцы Энгельса, а ў больш прасторнай зале. Але хіба ж магла вышэйшая ўлада дазволіць гэта?

Спаслаўшыся на тое, што ўсе тэатры і Палац культуры прафсаюзаў занятыя, яна прапанавала праводзіць урачыстасць у Доме мастацтва, побач з Домам афіцэраў, дзе зала не на шмат большая за пісьменніцкі клуб.

Зала была перапоўнена, людзі стаялі ўздоўж сцэнаў і ў праходзе паміж радамі крэслаў. Бурнымі апладысментамі віталі яны з’яўленне на сцэне юбіляра. Я назіраў за тым, як авацыя прымусіла ўстаць і апладзіраваць урадавых чыноўнікаў, якія прыйшлі сюды па службовым абавязку.

На вечары, які вёў народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, паэт Генадзь Бураўкін выступіў са змястоўным, цікавым дакладам пра творчасць Васіля Быкава. Таленавітага творцу віншавалі прадстаўнікі рэдакцый газет і часопісаў, выдавецтваў і арганізацый. Я прачытаў яшчэ не друкаваны верш “Таварыш маёр запасу”, прысвечаны Васілю.

Разгублены юбіляр сардэчна дзякаваў прысутным за тое, што яны знайшлі час і прыйшлі павіншаваць яго з пяцідзесяцігоддзем. Разыходзячыся, многія ўголас абураліся, што высокае чынавенства не знайшло прасторнай залы для ўрачыстасці...

Затое да шасцідзесяцігоддзя Быкава “ЛіМ” выйшаў з ягоным партрэтам на ўсю першую старонку. У нумары былі змешчаны артыкулы пра творчасць юбіляра Алеся Адамовіча, Пімена Панчанкі, балгарына Найдана Вылчава, літоўца Вітаўтаса Бубніса, шмат групавых фотаздымкаў. А на творчым вечары пісьменніка быў абвешчаны ўказ аб прысваенні Васілю Быкаву ганаровага звання Героя Сацыялістычнай Працы...

Дасведчаныя ў літаратурных справах чытачы ведаюць галоўную заслугу народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Ён адзін з першых празаікаў былога Савецкага Саюза, які зусім па-новаму паказаў чалавека на вайне, яго паводзіны і ўчынкі ў жорсткіх непрадказальных абставінах. Гэтым тлумачыцца тое, што яго творы перакладзены на шматлікія мовы і з аднолькавай цікавасцю чытаюцца людзьмі розных нацыянальнасцяў і розных узростаў.

Дзякуючы Васілю Быкаву ўпершыню такая вялікая колькасць народаў даведалася пра Беларусь і пра беларусаў.

Разам з тым на працягу ўсяго дваццатага стагоддзя ніводзін з беларускіх пісьменнікаў не крытыкаваўся за ідэйныя хібы гэтак часта і гэтак бязлітасна, як Васіль Быкаў.

Смешна было, як супярэчліва адносілася да яго ўрадавае чынавенства. З аднаго боку, яно падтрымлівала суровую крытыку твораў Васіля Быкава, а з другога — не ведала, што рабіць з імі, бо яны карысталіся вялізным поспехам у чытачоў ды яшчэ і вылучаліся грамадскімі арганізацыямі, рэдакцыямі часопісаў і выдавецтвамі на атрыманне самых высокіх прэміяў. Немагчыма ж было замоўчваць з’яўленне ў літаратуры таленавітых твораў. Таму чынавенства вымушана было час ад часу пагаджацца з прапановамі грамадскасці і прысуджаць прэміі творам Васіля Быкава, спрабуючы гэткім чынам задобрыць праўдалюбівага пісьменніка. Назіралася парадаксальная з’ява: чым мацней прадажныя пісакі крытыкавалі яго, тым вышэйшай узнагародаю ўлада вымушана была адзначаць ягоныя творы.

У 1964 годзе Савет Міністраў Беларусі прысудзіў Васілю Быкаву за аповесць “Трэцяя ракета” Літаратурную прэмію імя Якуба Коласа. У 1974 годзе аповесці “Абеліск” і “Дажыць да світання” былі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР. У 1978 годзе за аповесці “Воўчая зграя” і “Яго батальён” пісьменнік узнагароджаны прэміяй імя Якуба Коласа. У 1986 годзе Васілю Быкаву за аповесць “Знак бяды” прысуджана Ленінская прэмія... Такія вось “зігзагі лёсу”...

Той, хто быў добра асабіста знаёмы з Васілём Быкавым, часта сустракаўся з ім, могуць расказаць шмат пра выдатныя рысы ягонага характару, звычкі, схільнасці і захапленні.

Я ведаў, што паводле воінскага звання Васіль Быкаў — афіцэр запасу. Але чамусьці мне ён уяўляўся радавым у кароткім, не па росце, шынялку, з вынашанай пілоткаю, што з’ехала на патыліцу, які падбіў са сваёй “саракапяткі” нямецкі танк і не крычыць “ура!”, а моўчкі, яшчэ болей пасуровелы, борзда ўстаўляе ў гармату чарговы снарад.

Можа, такое ўяўленне ў мяне звязана з памяццю пра радавых франтавікоў і ціхмяным, засяроджана-заклапочаным, з сур’ёзным одумам на твары, Васілём Быкавым на пасяджэннях рэдкалегіі “Маладосці” і ў яе рэдакцыі, асабліва пасля чарговых заўваг цэнзуры адносна яго твораў. А драконаўскім нападкам цэнзараў падвяргалася амаль кожная яго новая рэч.

Разам з Васілём Быкавым мне даводзілася неаднойчы сядзець сярод удзельнікаў вайны, асабліва ў Ялцінскім доме творчасці, дзе прыгадваліся салдацкія баталіі і вайсковыя эпізоды. Васіль звычайна быў скупы на словы, уважліва слухаў іншых, сам болей маўчаў.

Ці не таму пасля некаторых яго аповесцяў, калі я думаў пра іх аўтара, мне чамусьці здавалася, што гэта менавіта пра яго адзін з шаноўных рускіх паэтаў-перакладчыкаў сказаў: “...я, писатель терпеливый, храню, как музыку, слова. Я научился их звучанье копить в подвале и беречь. Чем продолжительней молчанье, тем удивительнее речь”.

Чытанне па радыё Васілём успамінаў “Доўгая дарога дадому” надзвычай уразіла і здзівіла мяне. Колькі пакутлівых франтавых блуканняў, якія неймаверныя цяжкасці давялося перажыць яму на вайне! Калі ў думках я ставіў сябе на ягонае месца, мне здавалася, што я не здолеў бы вытрымаць.

Сам Гасподзь збярог яго беларускаму народу і зрабіў апосталам нашай нацыі. Пра гэта я казаў у Доме літаратара на прэзентацыі кнігі “Доўгая дарога дадому”.

Чытаючы кнігі прыяцеляў і калегаў, часам скрозь радкі твораў, як скрозь загароджу з калючага дроту, у героях я пазнаю характары і паводзіны, улоўліваю думкі і чую любімыя выслоўі саміх аўтараў.

У адрозненне ад іншых, у аповесцях Васіля Быкава перада мною не толькі паўстаюць партрэты героя або куток прыроды, але я яшчэ і выразна бачу іх, нібы намаляваных: тушшу — адзінокія аголеныя дрэвы, каляровымі фарбамі — вечаровае сутонне, завіруху ў заснежаным полі, зялёнае вецце соснаў, барвяную лістоту асінаў і залацістае лісцё бярозаў. Такое ўспрыняцце мною апісанага ім, напэўна, ад таго, што я ведаю, як жорстка лёс адарваў Васіля-юнака ад любімых заняткаў жывапісам і скульптурай і кінуў у вогненную крутаверць несусветнай калатнечы...

З Васілём Быкавым мяне зблізіла не толькі членства ў адной рэдкалегіі і пастаянныя сустрэчы ў рэдакцыі часопіса “Маладосць”, у якім працяглы час друкаваліся ўсе ягоныя творы, але і аднолькавая бяда — астма. Мы абодва насілі ў кішэні інгалятары, з якімі ніколі не разлучаліся, і таму час ад часу абмяркоўвалі між сабою іх якасці ды раілі адзін аднаму, якімі карыстацца лепей. У газеце я вычытаў параду аднаго астматыка, як з трохлітровага слоіка, напоўненага буйной соллю, і з процівагазнай каробкі з гафрыраваным і гумовым шлангамі самому змайстраваць просты інгалятар, і зрабіў яго. Штодня, раніцою і ўвечары перад сном, у добра праветраным пакоі я на працягу васьмі-дзесяці хвілінаў дыхаў праз яго — і мне станавілася лепей. Васіль прыходзіў да мяне дадому, уважліва аглядаў гэтую прымітыўную прыладу і таксама змайстраваў сабе такую ж. Але потым скардзіўся, што яна яму не памагае.

Ратуючыся ад хваробы, мы неаднойчы разам ездзілі адпачываць і працаваць у Ялту. Але і гаючае крымскае паветра не дапамагала яму, а толькі выклікала абвастрэнне хваробы. Таму ён перастаў туды ездзіць. А я, знаходзячыся на пенсіі, штогод з восені да вясны ўцякаў у Крым, бо там адчуваў сябе зусім някепска, асабліва ў гарах.

Сустракаючыся, Васіль паблажліва пацвельваў:

— Усё яшчэ ездзіш у Крым? Глядзі, каб не даездзіўся, як я...

Я спачуваў яму. Мне было шкада, што прыморскі рай не выратоўвае ад бяды таварыша па няшчасці.

Аднойчы, напярэдадні чарговага з’езда беларускіх пісьменнікаў, наша кіраўніцтва даручыла мне сустракаць і суправаджаць дэлегацыю эстонскіх літаратараў. Я нават пакрыўдзіўся, бо не быў знаёмы ні з адным эстонскім пісьменнікам. Як я пазнаю сярод процьмы людзей каторыя з іх эстонцы?

— Ну, вось і пазнаёмішся, — жартаваў адзін з кіраўнікоў. — Язык Кіева дапытаецца.

Але дарэмна я хваляваўся, выручыў Васіль Быкаў, які ўвечары патэлефанаваў мне дадому:

— Мікола, ты сустракаеш гасцей з Эстоніі?

— Я. А што?

— Хачу далучыцца да цябе.

— Калі ласка! — узрадаваўся я. — Можа, ты знаёмы з тымі, хто прыязджае? Бо я іх не ведаю.

— Трохі знаёмы, — супакоіў ён мяне. — Заўтра разбяромся...

Гасцямі нашага з’езда былі вядомыя эстонскія пісьменнікі, муж і жонка Уладзімір Эўгенавіч і Эмэ Артураўна Бээкманы, з якімі Васіль мяне пазнаёміў. Мы ўладкавалі іх у гатэль і суправаджалі на з’ездзе. Яны гасцявалі ў мяне дома.

Пазней маё знаёмства з імі набыло характар прыяцельскіх адносін. Аказалася, што мы з Уладзімірам Бээкманам былі ўдзельнікамі адной з пасляваенных Усесаюзных нарадаў маладых пісьменнікаў у Маскве. Абое высылалі мне свае новыя кнігі. Я пераклаў на беларускую мову некаторыя вершы эстонскага калегі. Сустракаўся з імі ў Таліне, дзе прадстаўляў “Маладосць” на нарадзе юнацкіх часопісаў Беларусі, Украіны і Прыбалтыкі і быў госцем ад нашай арганізацыі не з’ездзе пісьменнікаў Эстоніі...

У Ялцінскім доме творчасці Васіль таксама пазнаёміў мяне з некаторымі блізкімі яму пісьменнікамі братніх літаратур. Я здзіўляўся, як непрыкметна некаторыя з гэтых знаёмстваў перарасталі ў шчырыя сяброўскія адносіны. Спачатку думаў, што прычыняю гэтаму — лёгкая рука Васіля. Але адзін з новых знаёмых, вядомы рускі празаік Уладзімір Цендракоў, прызнаўся, што Васіль папярэдзіў яго, што са мною ён можа паводзіць сябе так, як з ім. Гэта кранула да слёз...

У нязвычных абставінах Васіль запомніўся мне непрадказальным, а ў смешнаватых — то спачувальна-лагодным, то наіўната-здзіўленым.

Аднойчы, калі ён ляжаў у бальніцы, я наведаў яго. Пасядзеў побач з яго ложкам хвіліны чатыры, і раптам у палату ўваходзіць Алесь Адамовіч. Толькі ён прысеў, як Васіль выняў з тумбачкі плоскую, як кніга, бляшаную біклажку дый кажа:

— Давайце, былыя партызаны і франтавікі, вып’ем за тое, каб мы меней хварэлі!

Наліў па кроплі каньяку — і мы сімвалічна выпілі.

Я здзівіўся, што і Алесь, не сказаўшы ні слова, таксама асушыў наліты на донца шклянкі каньяк, дый пытаюся:

— Хіба ўжо і ты п’еш?

Я ведаў, што мой зямляк ніколі не браў у рот спіртнога. Аказваецца, у Алеся было прабадзенне язвы. Урачы ледзьве адхаялі яго ў рэанімацыі. А я, жывучы ў Крыме, не чуў пра гэта...

Помню, як у невялікім застоллі Васіль пазнаёміў мяне з генераламі, які сядзеў паміж намі. Кожны раз, падымаючы кілішак, я звяртаўся да новага знаёмца то са словамі: “Таварыш генерал, за ваша здароўе!”, то прызнаваўся яму: “Таварыш генерал, як я рад, што маю магчымасць падняць кілішак з вамі!”

Васіль, напэўна, думаў, што я забыўся імя і імя па бацьку суседа, і павучальна-лагодна падказаў мне: “Мікола” — і называў, як велічаць генерала. А мне, былому гвардыі радавому, проста ніколі не даводзілася браць чарку з генераламі. Таму ў мяне не паварочваўся язык звяртацца да генерала па імю і імю па бацьку. Мне здавалася такое панібрацтвам.

Як прыгадваю гэта цяпер, дык мне няёмка...

Або іншае. Аднаго разу, пасля пераезду Васіля з Гародні ў Мінск, стаю каля Дома літаратара, а ён падыходзіць з жонкаю Ірынай Міхайлаўнай дый кажа:

— Мікола, будзь знаёмы з маёй жонкаю.

Ірына Міхайлаўна, смеючыся, удакладняе:

— Мы з Міколам у адзін час вучыліся ва ўніверсітэце.

— Глядзі ты! — з наіўнавата-здзіўленаю інтанацыяй у голасе працяжна вымаўляе Васіль...

Па даручэнні “Маладосці” я неаднойчы прыязджаў у Гародню прапагандаваць часопіс, праводзіць сустрэчы з чытачамі, асабліва напярэдадні падпісной кампаніі. Васіль Быкаў, як член нашай рэдкалегіі і аўтар вядомых твораў, што друкаваліся ў “Маладосці”, заўсёды сустракаў мяне, прыводзіў у інстытуты, тэхнікумы, прафесійныя вучылішчы, дзе прызначаліся сустрэчы, прадстаўляў аўдыторыі, але сам не праяўляў асаблівага імпэту і нават пасля маіх просьбаў рэдка калі згаджаўся выступіць. А я ж ведаў, што ён, пісьменнік з вядомым прозвішчам, піша часам прадмовы нават да пасрэдных кніг, ахвотна згаджаецца весці ў Доме літаратара творчыя вечары не толькі празаікаў, але і паэтаў.

Спачатку я думаў, што гэта ён па сваёй сціпласці і нешматслоўнасці не хоча выстаўляць сябе напаказ у горадзе, дзе жыве і працуе, а прадмовы піша і згаджаецца весці творчыя вечары паэтаў па мяккасці характару — не можа адмовіць настойлівым калегам.

Пазней, праўда, я выязджаў разам з ім на літаратурныя вечары ў глыбінку, і мы супольна выступалі перад чытачамі ў палацах культуры нашай сталіцы і па тэлебачанні.

Асабліва запалі ў маю памяць дзве паездкі з ім.

Аднойчы Васіля Быкава, Ніла Гілевіча і мяне запрасіў на цікавую сустрэчу з вучнямі і выкладчыкамі дырэктар мядзельскай школы, заслужаны настаўнік рэспублікі Кастусь Каратай. Пасля яе мы наведалі на нарачанскай дачы Міхася Лынькова. Там я ўзгадаў пра тое, як мы везлі ў багажніку аўтамашыны (бо не было вольнага месца) шчырага аматара роднай літаратуры, настаўніка Міколу Пашкевіча, які вельмі хацеў пабачыць карыфея беларускага прыгожага пісьменства. Трохі пазней гэты настаўнік, якога ведалі многія нашы пісьменнікі, памёр зусім маладым. Васіль Бькаў прысвяціў яго светлай памяці аповесць “Абеліск”.

Другая наша сумесная паездка запомнілася не толькі хвалюючымі сустрэчамі і цікавымі ўражаннямі, але і тым, што мне ледзь не вылезла бокам.

Інтэлігенцыя Полацка запрасіла Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна, Петруся Макаля і мяне на вялікі гарадскі літаратурны вечар. Падрыхтаваны ён быў вельмі хораша і прайшоў са своеасаблівым уздымам. Гаспадары гасцінна частавалі нас, на маляўнічым беразе ляснога возера спецыяльна напалілі лазню.

Праўда, Васіль адгаворваў мяне, не раіў ісці ў яе ў такім стане, сам застаўся ў прылазніку. А я, падахвочаны маладымі сябрамі, не паслухаўся яго і праявіў зухаватасць.

Генадзь, усцешаны гасцінным прыёмам на сваёй малой радзіме, па-гаспадарску паддаваў пары ды азартна хвастаў бярозавым венікам нашы з Петрусём плечы, спіны і грудзі.

Апоўначы таго дня мы вярнуліся ў Мінск. А на досвітку мне стала кепска. Выклікалі “хуткую дапамогу”. Я ляжаў у ложку, як спруцянелы. На шыі не паварочвалася галава, не разгіналіся ні рукі, ні ногі.

Урачы, калі даведаліся, што я быў у гасцях і мыўся ды парыўся ў лазні, пачалі дакараць. Маўляў, няўжо вы не ведаеце, што пасля застолля нельга хадзіць у лазню, а тым болей парыцца.

Я так і не прызнаўся калегам, што са мною здарылася, бо яны перажывалі б і вінавацілі б сябе за гэта. Асабліва няёмка было мне перад Васілём: ён, на чатыры гады маладзейшы, аказаўся болей практычны і вопытны...

Пасля супольных паездак з Васілём Быкавым у глыбінку, пасля выступленняў разам з ім перад чытачамі ў Мінску я па-іншаму зразумеў яго ранейшыя паводзіны і інакшым уявіў ягоны характар. Васіль не любіў дзяжурных літаратурных мерапрыемстваў і агульных выступленняў, на якіх прамоўцы пералівають “з пустога ў парожняе”.

На сустрэчах з маладымі чытачамі “Маладосці” ў Гародні я прапагандаваў часопіс, знаёміў з планамі рэдакцыі, расказваў, што будзе друкавацца ў бліжэйшых нумарах і якія празаічныя і паэтычныя творы ляжаць у рэдакцыйным партфелі. Сям-там, калі слухачы прасілі, чытаў некалькі вершаў. А пра што мог гаварыць там ён, сур’ёзны, удумлівы і нешматслоўны празаік? Лепей за ўсіх іншых ён прапагандаваў “Маладосць” і агітаваў за яе, друкуючы ў ёй свае выдатныя аповесці...

Я ведаю, што ён не аднойчы ўдзельнічаў у чытацкіх канферэнцыях па сваіх творах, адказваў на пытанні, чым выклікана іх напісанне, ці былі ў жыцці прататыпы яго літаратурных герояў. А тое, што ён згаджаўся пісаць прадмовы да кніг і весці творчыя вечары, тлумачылася не мяккахарактарнасцю, а дабрынёю і спагадлівасцю. Яму, пісьменніку, творы якога гэтак часта і гэтак жорстка крытыкаваліся ў друку, хацелася падтрымаць сваіх калегаў па рамяству...

Ніколі не забуду таго, якой шчырай, сардэчнай паштоўкаю павіншаваў ён мяне з Гародні ў сувязі з атрыманнем Купалаўскай прэміі. Я назаўсёды ўдзячны яму за тое, што ў Доме літаратара аднойчы ён вёў і мой творчы вечар.

Што ж тычыцца характару Васіля Быкава, дык пісьменнік пацвердзіў рашучасць і непахіснасць не толькі сваёй творчасцю, але асабістым прыкладам і грамадзянскімі паводзінамі. Яго характар вызначаўся не толькі праўдалюбствам і вольнадумствам, але і смеласцю ды непадкупнасцю. Пісьменніка не запалохала аглабельная крытыка, не падкупілі найвышэйшыя ўрадавыя ўзнагароды.

Чым болей беларусаў зразумеюць і ўсвядомяць, што Васіль Быкаў — гонар, сумленне і краса нашай нацыі, тым хутчэй яны стануць незалежнымі гаспадарамі ўласнай зямлі.

*Мінск.*

*Валянціна БЫКАВА, сястра пісьменніка*

# Вася, Васіль, Васілёк...

Чытаю ў газетах артыкулы пра яго, атрымліваю пісьмы ад ягоных сяброў, чую часам па радыё ягонае імя, а вочы мае засцілаюць слёзы. Ведаю, што ўжо трэба супакоіцца, што нічога не вернеш, а стрымацца не магу. Сэрца баліць і баліць. Гэта для некага ён вялікі пісьменнік, гонар Беларусі, ледзьве не ікона, а для мяне — старэйшы брат, Вася, Васілёк, Васіль...

Колькі сябе памятаю, ён быў са мною — у бацькавай хаце, у школе, каля рэчкі, на лузе.

Хата ў нас была невялікая. Яе ў 1933 годзе, калі арганізоўвалі калгас, сваімі рукамі склаў і абладкаваў бацька. Ён у нас быў, як кажуць, майстар на ўсе рукі — і плотнік, і столяр, да таго ж вельмі працавіты і акуратны. Ад іншых хата наша адрознівалася выкладзенай цэглай падлогаю. Памятаю, перад вялікімі святамі мама старанна мыла яе, і яна рабілася надзіва прыгожаю — чырвонаю. Каля хаты быў сад з яблынямі і дулямі. Дужа мы любілі малінаўку — надта ж сакавітымі і салодкімі былі яе яблыкі. А дуляў звычайна радзіла столькі, што мама іх смажыла ў гаршку ў печы — і паласавацца да нас забягаліся і суседнія дзеці. Дарэчы, гэтыя надта смачныя “фунтоўкі”, як мы іх называлі, нярэдка спакушалі нецярплівых вясковых хлапчукоў залазіць у наш сад, калі тыя былі яшчэ зусім зялёнымі. Былі ў садку і вішні, і апорты, але найбольш запомніліся малінаўкі і дулі... У істопцы ў нас стаялі жорны, на якіх малолі зерне, захоўвалася бульба і гародніна... Я добра памятаю, усім нам вельмі падабалася бацькава хата — і “чырвоная” падлога, і цёмная істопка, і цёплая, прасторная ляжанка на печы, і шырокія лаўкі каля сцен.

Мама наша была дужа добрая і спакойная. Бацька ж быў шустрэйшы, гарачлівы, але адыходлівы. Мы, дзеці — браты Васіль і Мікола і я, — з маленства былі прывучаны да працы, мелі свой клопат ці ў двары, ці ў гародзе. Асабліва часта матулі дапамагаў Васіль. Калі бацька быў заняты, ён прыносіў дровы ў хату, а восенню заўсёды падсабляў выбіраць бульбу. Рос ён вельмі паслухмяным і добрым хлапчуком. Хаця, як і ягоныя равеснікі, мог і пасваволіць. Помню, палезла я неяк з дзяўчаткамі ў сажалку пакупацца, а Вася з сябрамі забраў наша адзенне. Давялося дадому бегчы голай. Бацька тады яго адлупцаваў. Гэта быў адзіны выпадак, калі бацьку давялося пакараць Васіля.

Калі Вася пайшоў у школу, ён стаў вельмі заняты, бо дужа палюбіў чытаць кніжкі. Бывала, ідзе з Кублічаў са школы і цягне цэлую сумку кніжак, што набраў у бібліятэцы. Чытаў іх і па дарозе, і потым дома, ажно да позняй ночы. Пры ім і я рана навучылася чытаць і, калі пайшла ў першы клас, дык ужо ўмела і пісаць, і лічыць. А яшчэ ён любіў маляваць. І дужа ўдала ў яго гэта атрымлівалася.

Наогул, Вася ўжо з дзяцінства многае ўмеў рабіць — відаць, ад бацькі пераняў здольнасці. Сам змайстраваў сабе лыжы і канькі драўляныя, падбітыя дротам, на якіх катаўся зімою ці то з горкі, ці то на сажалцы. Летам жа выстругваў сабе розныя “вінтоўкі”, “наганы”, “гранаты”, з якімі гуляў у вайну. А мне аднойчы пашыў ляльку. Я вельмі любіла гуляць у лялькі, але купіць іх не было за што, а пашыць самой у мяне не атрымлівалася. А ён зрабіў, як сапраўдную — з рукамі, нагамі, косамі. Я шмат гадоў яе берагла, з ёю нават спаць клалася. Аднаго разу, памятаю, яе ў мяне ўкрала суседка — ёй таксама яна падабалася...

Вучыўся Васіль вельмі добра. Яго заўсёды ставілі ў прыклад, і бацькі ганарыліся гэтым. За выдатную вучобу яму нават давалі прэміі. Памятаю, далі яму чаравікі, а гэта ў той час быў вельмі дарагі падарунак. Быў Вася і актывістам, рэдагаваў насценгазету.

Асабліва мяне здзіўляла і захапляла ягонае ўменне маляваць. Калі я хадзіла ў другі клас, а ён быў у чацвёртым, настаўнік аднойчы паставіў аднаго вучня на табурэтку і загадаў усім намаляваць яго партрэт. У мяне ды і ў многіх іншых нічога людскага не атрымалася, а калі я знайшла ў васілёвай сумцы малюнак, які зрабіў Васіль, дык ажно не магла паверыць сваім вачам — як жывы! Пасля, памятаю, на палатне алейнымі фарбамі Вася намаляваў партрэт Леніна, і яго нельга было адрозніць ад фабрычнага. Бацька павесіў яго побач з абразамі. Як пачалася вайна, праўда, ён яго ці то закапаў, ці то спаліў, не памятаю, але партрэт гэты не захаваўся.

Усе плакаты, усе лозунгі, усе карыкатуры, якія былі ў нашай школе, — усё гэта было Васілёва. Прынясе, бывала, дахаты цэлы рулон шпалераў і малюе іх да ўсякіх святаў. Асабліва ж любіў пейзажы — гэта, як кажуць, для душы...

Пасля васьмі класаў ён не захацеў далей хадзіць у школу, а вырашыў паступаць у Віцебскае мастацкае вучылішча. І ўсё ў яго там атрымлівалася добра, але ў нас не было грошай, каб плаціць за вучобу, і Васіль праз год вярнуўся дамоў, дужа перажываў, што так здарылася...

Вася быў, як казалі ў вёсцы, “самастойны, сур’ёзны хлопец”. Ён ніколі не бегаў на вечарынкі, не любіў “біць лынды” з суседскімі “бэйбусамі” і сябраваў болей з дарослымі, старэйшымі за сябе людзьмі. Пры любой нагодзе зашываўся ў куток з кніжкай і чытаў. Не ведаю дакладна, калі, але пачаў і сам пісаць. Я гэта заўважыла і цішком даставала з сумкі тое, што ён старанна ад усіх хаваў. Спярша гэта былі кароткія вершы, але яны ў яго не дужа складна выходзілі і ён пераключыўся на апавяданні. Адно дык было на цэлы сшытак. Вёў ён і дзённік. Вось ён мяне якраз найболей цікавіў, і я яго знаходзіла, як бы хітра Вася яго ні хаваў. Гэта ж было так цікава — чытаць пра тое, што адбывалася побач з табой, у чым і сама часта ўдзельнічала!..

Перад вайною Васіль паехаў вучыцца ў ФЗН — школу фабрычна-заводскага навучання — і мы разлучыліся надоўга. Пачалася вайна, і ўсё ў жыцці перамянілася. Памятаю, колькі наплакалася маці, не маючы ніякай вестачкі пра сына. Вельмі перажываў і бацька. За гады гітлераўскай акупацыі давялося выцерпець усякае. І ўвесь час з трывогай думалася пра брата: дзе ён, ці жывы, ці давядзецца зноў з ім пабачыцца?.. Забіралі мяне фашысты з іншымі дзяўчатамі везці ў рабства ў Германію, але я ўцякла. Ад Васіля атрымалі пісьмо, калі ўжо прайшоў праз нас фронт і вярнулася савецкая ўлада. Памятаю, як гэта было. Мама з жанчынамі на лузе грэблі сена, а паштальён якраз і прынёс ліст. Кажа: вам трохкутнік. А мама чытаць не ўмела, дык схапіла яго і кінулася бягом да хаты. Бацька ў нас быў пісьменны і ўсё прачытаў — што Вася жывы і шукае нас. Пасля пачалі прыходзіць і яшчэ лісты. А аднойчы атрымалі паведамленне аб ягонай гібелі. Але мы разабраліся, што сам Васіль пісаў нам са шпіталя пазней ужо. А то вельмі спалохаліся...

Дамоў першы раз пасля вайны мой дарагі Васілёк прыехаў у 1948 годзе. Я тады жыла і працавала ў Падсвіллі. Дык ён з цягніка і завітаў да мяне. Завёў у рэстаран, добра накарміў. Была зіма. Я хадзіла ў нейкіх чаравіках, ногі страшэнна мерзлі. Дык Вася падараваў мне новыя хромавыя боты. Я адпрасілася з працы, за намі на кані прыехаў брат Мікола, і мы разам рушылі да бацькоў, у родную вёску. Колькі было радасці, і слёз, і ўспамінаў — не пераказаць! Васіль тады пабыў дома, пэўна, тыдзень, а можа, і болей. І зноў паехаў служыць...

Ну а пасля жыццё патроху наладжвалася. Васіль кожны год хоць два ці тры разы прыязджаў на бацькава селішча. Стаў ён славутым. Ці не кожны дзень гаварыла аб ім радыё, паказвала яго і тэлебачанне, кніжкі свае ён прывозіў, дарыў нам. Праўда, бывала, што на яго і ўсякую дарэмшчыну ўзводзілі. Канешне ж, ён перажываў, але мне ніколі не жаліўся, проста махаў рукой і супакойваў: пройдзе, людзі ва ўсім разбяруцца. Памагаў мне заўсёды, чым мог. Але самае галоўнае і дарагое для мяне было, што ніколі не забываў мяне, цікавіўся маім жыццём, не абмінаў цесную бацькоўскую хату, што ўрастала ў зямлю і сірацела без нас.

Такі ён быў, родны мой Вася, Васілёк, Васіль, любімы мой, незабыўны браток...

*в. Ваўчо, Ушацкі раён.*

ЧИТАТЕЛЬ—ГАЗЕТА

## Успехов вам...

Хочу поблагодарить вас за интересную, содержательную газету. Я являюсь подписчиком “Народной Воли” давно и не перестаю восхищаться талантом ваших сотрудников. С нетерпением жду каждый номер газеты. Очень люблю Светлану Михайловну Калинкину — вот поистине талантливый человек! Понравились репортажи А.Цынкевича, статьи профессора Желибы, Марины Коктыш. Желаю всем сотрудникам “Народной Воли” здоровья, успехов в такой трудной работе, выдержки и счастья в личной жизни!

Сама я стараюсь распространять газету, хотя народ в Добруше сложный. Но все-таки уже двое стали подписчиками. Даю читать статьи, и люди начинают задумываться.

**С уважением —**

**Галина Михайловна ОСИПОВА.**

*г.Добруш.*

## Спасибо и Вам, наши читатели!

Уважаемая Галина Михайловна!

Огромнейшее спасибо за внимание к газете “Народная Воля”! Ваша высокая оценка нашей работы — это, мы считаем, аванс, который еще предстоит оправдать. Будем стараться.

Особая Вам благодарность — за то, что агитируете за газету. Хотелось бы, чтобы Вашему примеру последовали и другие наши постоянные читатели. Подписная кампания на второе полугодие близится к завершению, и мы, честно говоря, переживаем за ее результаты. Давайте посоветуем (а при возможности и поможем) подписаться на “Народную Волю” близким родственникам, друзьям, сослуживцам. Пусть увеличивается читательская аудитория независимой, поистине демократической газеты.

ЧУЛІ?

## Давайце разам!

**Актывісты ініцыятывы “За ўратаванне Курапатаў” распачалі чарговую акцыю па ўпарадкаванні ўрочышча.**

**“Талака-2014” будзе праходзіць кожны аўторак з 17.00 да 20.00. Ініцыятары заклікаюць усіх неабыякавых людзей браць удзел у акцыі, каб прыбраць і ўпарадкаваць Курапаты.**

РЭЗАНАНС

## Артыкул Віктара Дашука — шэдэўр публіцыстыкі

30 мая 2014 года ў газеце “Народная Воля” быў надрукаваны вялікі артыкул пад назвай “Последний репортаж из клетки для кроликов” знакамітага кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі Віктара Дашука. Аўтар вельмі праўдзіва, вельмі смела, вельмі таленавіта прааналізаваў і адлюстраваў самыя галоўныя факты і акалічнасці сацыяльнага і палітычнага жыцця Беларусі і суседніх краін за перыяд з 1990-х гадоў да цяперашняга часу. Гэты артыкул — сапраўдны шэдэўр сучаснай беларускай публіцыстыкі.

Асноўная сфера дзейнасці В.Дашука — кінематаграфія. Ён стварыў дзясяткі розных кінафільмаў, і ўсе яны адзначаюцца высокім прафесіянальна-мастацкім узроўнем. Але, акрамя гэтага, В.Дашук займаўся і займаецца і іншымі важнымі справамі, у тым ліку і газетнай публіцыстыкай. У 1995 годзе ён апублікаваў артыкул “Я не хачу, каб лёс беларусаў быў падобны на лёс вымерлага народа майя”. У ім былі выказаны самыя праўдзівыя словы аб дрэннай палітычнай сітуацыі ў Беларусі. І па гэтай прычыне Дашук адразу быў выгнаны ўладнымі чыноўнікамі з дзяржаўнай кінастудыі і тэлебачанню забаранілі паказваць фільмы Дашука.

11 кастрычніка 2000 года ў газеце “Народная Воля” быў надрукаваны артыкул В.Дашука “А хто там ідзе?”. Артыкул прысвечаны самым найвялікшым праблемам жыцця беларускай нацыі. 31 кастрычніка “Народная Воля” надрукавала мой водгук на гэты артыкул В.Дашука. Паводле просьбаў многіх грамадзян 6 лістапада таго ж года паўторна апублікавала артыкул “А хто там ідзе?”.

8 лютага 2011 года ў “Народнай Волі” быў надрукаваны новы вельмі важны твор В.Дашука — артыкул “Приходи ко мне на праздник...”. А 30 мая 2014 года з’явіўся, як я адзначыў вышэй, чарговы шэдэўр В.Дашука — артыкул “Последний репортаж из клетки для кроликов”. У ім знакаміты кінарэжысёр закрануў і ўкраінскую тэму. Ён вельмі рэзка асуджае цяперашнія дзеянні расійскіх імперцаў супраць украінскага народа, які ў цяжкіх умовах змагаецца за свабоду і цэласнасць краіны. Варожыя сілы хочуць адарваць ад Украіны яе паўднёвыя і ўсходнія рэгіёны і далучыць іх да Расійскай Федэрацыі.

Артыкул “Последний репортаж из клетки для кроликов” настолькі важны, што, па маім меркаванні, “Народная Воля” павінна паўторна апублікаваць яго праз пэўны час.

Я сардэчна жадаю калектыву рэдакцыі газеты “Народная Воля” і яе таленавітаму аўтару Віктару Дашуку ўсяго самага найлепшага!

**Сяргей БАРЫСАЎ,**
**геолаг.**

ЛИЧНОЕ МНЕНИЕ

## Горе от недоумия

*В стране началось централизованное тестирование.*

### Вершки и корешки

На днях в минском метро увидел объявление о приеме в Минский государственный медицинский колледж. В условиях приема было сказано, что безо всякого ЦТ принимают тех, у кого в документе об образовании оценки по русскому языку и биологии не ниже ЧЕТЫРЕХ баллов! “Не мало ли, — подумал я, — при существующей десятибалльной системе?” Если сравнивать с советской пятибалльной системой оценок — это два балла! Даже если допустить, что я утрирую, все равно получается, что учебное заведение готово видеть своими учащимися “крепких троечников”.

Понимаю: в стране не хватает среднего медперсонала. Но я сильно сомневаюсь, что учащихся там вышколят и все они выйдут как минимум твердыми хорошистами. И что совсем тревожно: станут ли они профессиональными медработниками?..

Стал вникать в суть проблемы и выяснил, что ситуация с приемом в медколледжи — не единична, она характерна для всего нашего образования.

На сайте Министерства образования нашел такую статистику. В 2001 году в 248 профтехучилищ страны было принято 137,7 тысячи учащихся. Тогда же 57 вузов приняли 282 тысячи студентов. Получается, на одного с сошкой — два с ложкой. Немало! Но это еще цветочки прошлого десятилетия. В 2012 году профтехучилищ стало меньше — 226 (минус 22 заведения). А вот учащихся стало почти в два раза меньше — всего 79,9 тысячи! Количество вузов также слегка сократилось — до 54. Но приняли они аж 429 тысяч студентов! Это уже несмешное соотношение.

Когда есть такая огромнейшая диспропорция в подготовке рабочих и специалистов с высшим образованием, понимаешь, что для разговоров руководителей страны о “крепостном праве” на селе есть повод. Но не оправдание. Потому что это говорит еще и о качестве работы многих наших многолетних горе-руководителей, которые не могут просчитать, предвидеть будущее страны. Сегодня кадровый голод испытывают не только государственные, но и многие частные структуры. Знакомый, поставивший небольшой заводик в Минской области, никак не может запустить предприятие — начальники есть, а вот квалифицированных рабочих нет! Другой хозяин, переманив большой зарплатой сварщика, молится, чтобы тот не ушел в запой. Третий — руководитель-собственник крупного универсама — как-то пожаловался, что за три месяца ему пришлось уволить из своего магазина полтора десятка кассиров, которые отказывались говорить “Спасибо за покупку!”. И это при том, что кассиров и обучали, и уговаривали, и наказывали. Но не удалось привить эту нехитрую привычку...

### Белорусский капут

Дефицит профессионалов во всех сферах, думаю, наблюдается и потому, что вузы заканчивают очень средние студенты. Почему? Да потому, что сегодня поступить в вуз несложно. Одно время студентом можно было стать, написав экзаменационный тест на 1 балл из 100 возможных!

Эту систему долго критиковали. Но люди от образования объясняли: знания у школьников столь низкие, что, если ввести минимальный проходной балл, вузы останутся без студентов. Два года назад этот балл все же ввели. Но какой это балл?!

Сегодня, чтобы постучаться в двери вуза, абитуриент должен набрать на ЦТ:

по русскому или белорусскому языку всего лишь 10 баллов из 100,

по математике, физике, химии, биологии — 15 баллов из 100,

по истории Беларуси, всемирной истории новейшего времени, обществоведению, географии, иностранным языкам — 20 баллов.

И это еще не все. Оказывается, если в вузах на бюджетные места недобор, тогда они имеют право принимать абитуриентов, которые написали ЦТ по русскому или белорусскому языку на 5 баллов, по математике, физике, химии, биологии — на 10 баллов, а истории Беларуси, всемирной истории новейшего времени, обществоведению, географии, иностранным языкам — 15 баллов. Получается, что за наш с вами счет, уважаемые читатели-налогоплательщики, в некоторые высшие учебные заведения могут принять, простите за прямоту, полных дуралеев и высококачественных балбесов!

К слову, в России минимальные проходные баллы в вузы по ЕГЭ (аналог нашего ЦТ) значительно выше. Там претендовать на поступление в вуз можно, набрав по русскому языку не менее 36 баллов, по литературе, истории — 32 балла, математике — 24, информатике — 40, физике, химии, биологии — 36, обществоведению — 39, географии — 37.

При этом российские чиновники отмечают, что для того, чтобы набрать такое количество минимальных проходных баллов, не требуется специальных и глубоких знаний выпускников. Фигурально выражаясь, школьник должен знать предмет на твердую “троечку”.

Как видите, белорусские требования на старте в два раза ниже. О какой конкурентоспособности страны мы можем говорить? С такими требованиями к отбору кадров мы не то что недалеко уйдем, мы уйдем в никуда!

Зато министерство может гордо рапортовать: по количеству студентов на 10 тысяч населения (данные 2011 года с сайта Минобразования) мы заткнули за пояс Германию, Францию, Италию, Великобританию, Испанию, Данию, Австрию и ряд других прилично развитых европейских стран! Почти в два раза превосходим Китай и Японию! Трепещите, конкуренты, и завидуйте! Только вот потом все руководство страны ломает голову, как разгрузить склады от товаров, сделанных нашими умельцами, и где, в каком Таджикистане, найти рабочих разных, вплоть до самых простых, специальностей. Просто национальное горе от недоумия!

**Леонид ДОКУЧАЕВ.**

*Минск.*

РОЗДУМ

## «Элегантна», як заўсёды?

Думаю, вынікі і наступных прэзідэнцкіх выбараў будуць уражваць “элегантнасцю”. Нагод для такога пераканання багата. Галоўная — Выбарчы кодэкс застаўся старым. Значыць, лічыць галасы будуць спрытна, як і заўсёды.

У выбарчых камісіях амаль не будзе прадстаўнікоў ад апазіцыі ці ад прэтэндэнтаў на пост прэзідэнта.

Камісіі будуць фарміраваць толькі ўладныя чыноўнікі і толькі з правераных і адданых уладзе дырэктараў прадпрыемстваў і школ, настаўнікаў, ідэолагаў, сябраў “Белай Русі”, БРСМ і пенсіянераў.

Скрыні для бюлетэняў будуць “глухімі”. Датэрміновае галасаванне будзе без сумнення. Ніякіх “круглых сталоў”, як і дэбатаў у прамым эфіры, не будзе.

Агітацыя за “галоўнага” кандыдата будзе дзяржаўнай, паўсядзённай, нахабнай і абавязковай для газет, радыё, інтэрнэту, тэлебачання, доступу да якіх іншым кандыдатам не будзе. Праслед апазіцыйных актывістаў будзе арганізаваны бездакорна, як і замбіраванне студэнтаў, пенсіянераў і сялян.

Адзіны кандыдат ад апазіцыі (калі ён будзе абраны) нічога не вырашыць, як заўжды. Перад выбарамі будзе павышэнне заробкаў і пенсій, а пасля выбараў (як і заўжды) — павышэнне тарыфаў на ўсе віды паслуг, не кажучы ўжо пра цэны.

Назіральнікі (як і заўсёды) будуць бачыць не бюлетэні, а кумпякі сябраў камісій. Агітацыя за байкот выбараў, канешне, забаронена. Вайскоўцы і студэнты строем накіроўваюцца на выбарчыя ўчасткі.

Міліцыя, вядома, будзе “на вушах”, часткі войскаў МУС у бронекамізэльках суткі будуць сядзець у гатоўнасці ў “варанках” у тупіках вуліц, за будынкамі.

Што ж рабіць? Час ідзе хутка — як бы не стала позна. Можа, хто нарэшце напіша лепшы сцэнарый будучых выбараў прэзідэнта?

**Міхаіл Міхайлавіч БУЙНІЧ,**
**вайсковы пенсіянер.**

*Гомель.*

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

## Танец длиной в 50 лет

Уважаемая редакция!

В 1964 году в старинном городе Турове появился народный ансамбль танца “Припять”. Создал его и в течение долгого времени руководил им **Николай Кононович Котов**. С полной отдачей сил, энергии и здоровья Николай Кононович сохранял и возрождал культурное наследие Беларуси, развивал искусство народного танца. Под его руководством ансамбль получил звание “народный”. И хотя сейчас Николай Кононович живет в Минске, он принимает живейшее участие в деятельности ансамбля “Припять”.

Имя Николая Кононовича Котова навсегда войдет в историю нашей любимой страны. Его помнят все, кто благодаря ему связал свою жизнь с искусством танца и живет под его девизом: “Движение — это жизнь”.

Мы, ветераны народного ансамбля танца “Припять”, поздравляем Николая Кононовича Котова со славной датой — 50-летием его детища! Желаем нашему дорогому руководителю крепкого здоровья, творческих успехов, благополучия!

**По поручению ветеранов ансамбля —**

**Иван Михайлович МОТАХ,**
**военный пенсионер.**

*д.Запесочье Житковичского района.*

КОЛОНКА ЮРИСТА

## Как не погореть на кредите?

В редакцию обратилась читательница из города Каменец Инна Прокопюк. *“18.09.2013 года я заключила договор процентного займа с ЧУП “Надежный займ”, имеющего юридический адрес в д.Пелище, улица Юхновича, 93, Каменецкий район Брестской области, — написала она. — По договору я взяла кредит в сумме 4.000.000 рублей, сроком на 15 дней с размером выплат 1,25% от суммы займа. Срок возврата денежных средств 2.10.2013 года.*

*4.10.2013 года мне позвонил директор и предложил 5 октября возвратить займ и проценты по задолженности. Я в указанное время пыталась дозвониться, но встреча не состоялась. Считаю, что данное предприятие преднамеренно затягивает возврат клиентами денежных средств, чтобы получить незаконные вознаграждения. Я по этому поводу обращалась в государственные и правоохранительные органы, чтобы привлечь директора за мошенничество. Однако мер правового характера не было принято.*

*Опубликуйте мою историю, чтобы люди задумались, брать ли кредиты у таких предприятий”.*

К сожалению, историй, когда белорусы попадают на “кредитный крючок” только потому, что невнимательно читали условия договора, немало. Поэтому мы решили дать небольшой комментарий.

Например, что касается ситуации нашей читательницы. Мы изучили договор займа, но не усмотрели каких-либо нарушений по договору, предприятие “Надежный займ” ничего не нарушило.

По договору займа получается, что одна сторона (заимодавец) передает в собственность другой стороне (заемщику) деньги или другие вещи, определенные родовыми признаками, а заемщик обязуется возвратить заимодавцу такую же сумму денег (сумму займа) или равное количество других полученных им вещей того же рода и качества (п.1 ст.760 ГК РБ). Договор займа считается заключенным с момента передачи денег или других вещей.

Если в договоре определен срок возврата денег, то заемщик обязан возвратить деньги в указанный срок, а также проценты, размер которых определен договором.

Последствия нарушения заемщиком условий договора обычно определяются в самом договоре и, как правило, предусматривают обязанность выплатить проценты в определенном размере за каждый день просрочки. Но даже если договором не определены такие последствия, проценты в случае невозврата в срок суммы займа можно взыскать в пользу заимодавца в соответствии с п.1 ст.366 ГК со дня, когда эта сумма должна была быть возвращена, по день ее возврата заимодавцу независимо от уплаты процентов.

Что получилось у нашей читательницы Инны Прокопюк? Она нарушила срок возврата денежных средств, т.е. ей необходимо было до 2.10.2013 года перечислить единовременным платежом указанную сумму с учетом выплат за каждый день пользования денежными средствами на счет заимодавца, который указан в договоре.

Еще раз советуем всем, кто собирается взять заем: внимательно изучайте условия договора. По поводу процентов за нарушения срока возврата денежных средств законодательство не ограничивает заимодавца в их размере.

**Олег ВОЛЧЕК,**
**руководитель правозащитного центра “Правовая помощь населению” (Киев, Украина).**

НЕ МОГУ МОЛЧАТЬ!

## Смешно и грустно

Недавно прочитала в “Народной Воле” заметку о возможном ограничении до 6 лет возраста нахождения детей в детских садах. Аргументация — тяжелый финансовый груз для бюджета нашего государства.

Извините за прямоту, но меня это ВЗБЕСИЛО. Я мама ребенка, посещающего сейчас детский сад. Думаю, ни для кого не секрет, что родители уже оплачивают 100% стоимости питания, собирают деньги на ремонт и игрушки, покупают все необходимое для организации воспитательного и учебного процесса (книги, карандаши, пластилин, альбомы для рисования, моющие и чистящие средства и многое другое — подобные списки есть у всех родителей дошкольников). Наверное, единственное, на что родители ПОКА не собирают деньги, — это заработная плата работников дошкольных учреждений (хотя, конечно же, их труд тоже оплачиваем мы своими налогами). Так сколько же можно над нами издеваться?

Что родителям делать с ребенком, если он родился, например, в декабре? Его и в школу не возьмут, и из сада выгонят. Брать любимое чадо с собой на работу? Не у всех же есть бабушки и дедушки, изъявляющие желание и имеющие возможность приглядеть за ребенком.

В таком случае не надо говорить, что у нас в стране бесплатное образование. Оно давно перестало быть таковым. И не надо нас обманывать. Проблем для родителей государство создает все больше и при этом призывает повысить уровень рождаемости... Смешно и грустно все это...

**Ирина РЕПИЧ.**

НА ЗЛОБУ ДНЯ

## Хватит врать

Мы, пенсионеры города Бреста, **убедительно** просим помочь в решении одной из главных проблем нашей жизни, ибо не хлебом единым жив человек, есть еще и духовная пища.

У нас в Бресте, как и во многих городах Беларуси, отключили украинские каналы “Интер” и “Один плюс один”.

Мы, пенсионеры, прожили достаточно долгую жизнь и отлично понимаем, что идет информационная война, а она порой пострашнее войны, развязанной Россией, вернее В.В.Путиным, против Украины. В настоящее время нас делают глухими и слепыми, население попросту зомбируют все российские и белорусские СМИ. Ведь они выпускают в эфир бесноватого Жириновского, который когда-то сказал: “Мы еще будем мыть свои сапоги в Индийском океане”, а недавно толкал своих охранников насиловать беременную журналистку.

Или проплаченный В.В.Путиным Киселев, который грозит с экрана: “Мы Америку за секунды превратим в пыль”, а ему вторит Миронов (“Справедливая Россия”).

Люди! Идет страшнейшая милитаристская пропаганда! Задумайтесь! И ведь все это с подачи и согласия господина Путина, “собирателя земель” в пределах бывшего СССР.

Но мы живем в XXI веке, и время вспять не повернуть. А все, что показывают российские каналы (бомбежки, фосфорные бомбы и т.д.), — сплошная грязь и вранье, а люди смотрят это по телевизору и верят.

Но самое главное и страшное — там гибнут ни в чем не повинные люди, наши соседи, наши родственники, которые живут в Донбассе, Мариуполе, Луганске... Войну в их дома принесли Стрелков, Гиркин и остальные бандиты. Пора нашему народу узнать эту правду. Просим вернуть украинские телеканалы в наш эфир.

**P.S.** Если причина отключения “Интера” в отсутствии денег со стороны Украины на лицензирование канала, а не политическая подоплека, мы соберем эти деньги.

**Дина Васильевна ДОЙБАН,**
**Инна Михайловна КРАПИВНИЦКАЯ,**
**Тамара Петровна ТАРАСОВА,**
**Людмила ШИКУНОВА.**

*Брест.*

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ...

## Маршрут да музея Быкава

*У мінулым нумары “Народнай Волі” прачытаў пра адкрыццё Дома-музея Васіля Быкава. Падкажыце, як туды дабрацца?*

***Васіль Дзем’яновіч, Мінск.***

Даехаць да лецішча пісьменніка можна на прыгарадных аўтобусах №№219 і 419, якія адыходзяць ад станцыі метро “Пушкінская”. Ехаць трэба да прыпынку “Рэспубліканскі інтэрнат ветэранаў вайны і працы”. Адтуль — пехам у бок дачнага масіву “Ждановічы-6”. Адрас музея: вуліца Вінаградная, 62.

